

У нумары:

**Народная адукацыя ў Беларусі**

**Народная асвета на Беласточчыне ў II-гой пал. XIX ст.**

**Сеўцы высакароднага і шляхетнага**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (455) | ГОД IX | 15 ЛІСТАПАДА 1964 г. | ЦАНА 60 гр.


## ВЯЛІКІ ШАНЦ МІХАЛОВА

У тэлефанічных кніжках мястэчка мае падвойную назву: Міхалова-Нязбодка. У гэтай даўгаватай назве знаходзім адбітак таго рэдкага ў палове XIX ст. выпадку, калі маёнтак развіваецца накшталт мястэчка. Пан Сэверын Міхалоўскі атрымаў у спадчыне па бацьку двор Нязбодка, слабейшы ад суседняга Геранімова (цяпер ПГР Геранімова). Пан Сэверын меў спрыт да інтарэсаў, замест фанабэрлівага шляхціца стаў ён вёрткім прадпрыемцам. У 1845 годзе прывёз дваццаць дзевяць сем'яў нямецкіх ткачоў і пасяліў іх каля нязбодскага двара. Такім чынам заснаваў ён ткацкую мануфактуру. За кароткі час Нязбодка стала трэцім па велічыні цэнтрам тэкстыльнай прамысловасці ў акрузе — услед за Беластокам і Супраслю.

Энергічны шляхціц у Нязбодцы не спадзяваўся, што апрача даходаў будзе мець сабе помнік — мястэчка Міхалова. Зрэшты, шмат чаго ён не спадзяваўся; не спадзяваўся, напрыклад, такой навіны свайго веку, як чыгунка. Чыгунка дала не толькі хуткую камунікацыю, але, што найважнейшае, стварыла яна танны транспарт. Чыгуначныя лініі скрыжаваліся ў Беластоку і дзякуючы таму стаў ён тым, чым ёсць цяпер. Чыгунка абмінула Міхалова ў адлегласці каля дзесяці кіламетраў на поўнач.

Кончыліся вялікія дні прамысловага мястэчка загубленага сярод правінцыянальнага бездарожжа. Лічба фабрык і рабочых безустанку змяншалася тут аж да выбуху другой сусветнай вайны. Вялікія беластоцкія фабрыкі, якія густа расселіся паблізу чыгуначнага вузла, прычыніліся да таго, што ў міжваенны перыяд міхалоўскія фабрыкі працавалі толькі сезонна — па пяць-сем месяцаў у год. У сучаснай прамысловай канкурэнцыі МІХАЛОВА ТРАЦІЛА ЎСЯЛЯКІЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ.

Рынак, гэты квадратовы пыльны пляц, замяняў амярцвелыя фабрыкі. Ставаўся ён заменнікам, сурагатам местачковай эканомікі: — каму яек? каму масла? кошыкі, купляйце, кошыкі! Падпоеная гарэлкаю кляча іскрыста ёрзае капытамі на ўцеху і задавальненне прастадушнага набыўцы. Мізэрны, часта падшыты подласцю гандаль, дзе няважная марка, гонар, але грошы, грошы; гандаль, дзе, урэшце, рэдка хто мае грошы, дзе больш крыклівага шуму чым абароту.

(Працяг на стар. 4)

ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

## ШКОЛА НА ЎСКРАІНЕ

Школа на ўскраіне горада роднага,
З садзікам, прызбаю, шыльдай злінялаю,
З трэллю хрыпатай званка непрыгоднага,
Са сценгазетаю ў сенцах наўдалаю!
Чым ты палоніш, малая, нязыркая,
Чым гэтак вабяць пакойчыкі класныя?
Дзесь зазвінелі разбітай прабіркаю...
Дзесьці лічыльнікаў костачкі ляснулі...
Тут — пра балоты ўрадлівыя гоман,
Там — пра пустыні вільготныя спрэчка...
Домам зрабілася, радасным домам
Школа для вучняў былога мястэчка.
Стрэнеш у ёй гарнітурчык картовы
І паркалёвыя стужачкі ў косах.
Стрэнеш Гагарыных тут і Цітовых
У маі ці нават у верасні босых...
Штосьці такое сустрэнецца ў школе,
Што западае ў душу назаўсёды,
З чым не расстанецца сэрца ніколі,
Цераз якія ні пройдзеш нягоды!..

## ІМЯ ЯМУ — НАСТАЎНІК

### МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ
### Старшыня ГП БГКТ

Напэўна вельмі мала ў нас такіх людзей, якія не захоўвалі б у сваёй памяці настаўніка строгага і добрага, патрабавальнага і чуткага, таго, які не толькі вучыў чытаць і пісаць, але і адкрываў свет аграмадны, цудоўны. І вучыў не толькі пасіўна любавацца хараством гэтага свету, яго незлічонымі багаццямі, але і заклікаў умнажаць іх, быць адкрывальнікам новага, недаследаванага. Вось таму, кожны чалавек памятае, як многа абавязан свайму выхавацелю.

А калі мы гаворым аб тых вялікіх поспехах, аб тых няспынных сямімільных кроках, якімі ідзе наша краіна да пабудовы сацыялізма, то ў плёне працы нашых рабочых і сялян, вучоных і пісьменнікаў, інжынераў і медыкаў ёсць вялікая заслуга настаўніка. Гэта яго вучні, якім ён год за годам аддаваў жар сваёй душы, вучыў быць карыснымі грамадству, сёння ўзводзяць гіганты-заводы, магутныя электрастанцыі, вырошчваюць багатыя ўраджаі.

Наша партыя, ўрад і ўвесь наш народ давяраюць настаўніку самы каштоўны капітал — маленькіх грамадзян краіны, а гэта значыць і яе будучыню. Усё гэта патрабуе ад настаўніка нястомнай і вялікай работы, умення рыхтаваць маладую змену для працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Але навучаннем дзяцей не абмяжоўваецца дзейнасць нашага настаўніка. Велізарная роля яго ў працы партыйных, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Прыходзіцца ім вырашаць многія пытанні штодзённага жыцця. І трэба сказаць, што з усімі гэтымі надзённымі і адказнымі задачамі настаўнікі паспяхова спраўляюцца.

Ніхто больш, як настаўнікі, дапамагаюць таксама ў працы Беларускаму грамадска - культурнаму таварыству. Іх актыўнасць, дарадчае слова вельмі патрэбнае як у гуртку БГКТ, так і ў павятовым і Галоўным праўленнях. Незаменная роля настаўніка ў развіцці культурнага жыцця нашых вёсак і мястэчак. Мы ганарымся выступленнем нашых самадзейных калектываў, якімі кіруюць настаўнікі. А вось толькі некаторыя прозвішчы іх: Сяргей Філіпюк, Язэп Зінкевіч, Ліда Андрэюк, Язэп Навіцкі, Антаніна Панасюк, Кастусь Яканюк, Валянціна Высоцкая, Мар'ян Філановіч, Раіса Белах Генрых Гаўзэ, Янка Алексеюк, Яўген Чабан, Аляксандр Харкевіч, Мікола Антанюк, Мікола Краўчук, Ольга Лапацюк і многа многа іншых, якія шыраць беларускае сцэнічнае слова, песню, верш, танец. А ўсё гэта выдатная і ідэалагічная зброя, якая вельмі актыўна, проста, непрыкметна, але глыбока ўздзейнічае на выхаванне чалавека.

Выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры сваім педагагічным майстэрствам навучэнцам школы прывіваюць любоў і пашану да прыгажосці роднай мовы і культуры і гэтым самым садзейнічаюць у выпрацаванні такіх рыс як патрыятызм і інтэрнацыяналізм. Адным словам, яго роля як настаўніка і як дзеяча БГКТ велізарная.

У дзень Вашага свята Таварыства гаворыць: дзякуем Вам, дарагія настаўнікі, за выдатную дапамогу ў складанай працы БГКТ, дзякуем Вам за сталае гарэнне і няспынныя пошукі ва ўдасканаленні выхаваўчай працы, дзякуем Вам за ўменне адкрываць у людзях добрае і шырэй рассоўваць перад імі гарызонты.



**Будаўнічы сезон набліжаецца да канца разам з апошнімі сонечнымі праменнямі бабінага лета.**

**На здымку: будова пачатковай школы ў вёсцы Кленікі (Гайнаўскі пав).**

**Тэкст і фота — С. Яновіч**

**З нагоды Дня настаўніка, усім нашым дарагім педагогам шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні далейшых поспехаў у працы і шчасця ў асабістым жыцці.**

**ГП БГКТ**
**«Ніва»**




**Ул. Шклярук: ГАДЫ БАДЗЯННЯЎ І ПОШУКАЎ.**

**Л. Гайдук: НАРОДНЫЯ ЗВЫЧАІ БЕЛАРУСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ.**

**Ул. Паўлючук: МАРЫ АБ СВЕЦЕ АДЗІНОЦТВА.**

**В. Рудчык: ГОРКІЯ БУРАКІ.**

**С. Яновіч: ДУБІНА.**

# ПЕРАМАГЛІ ПАМЯРКОЎНАСЦЬ І РАЗВАЖНАСЦЬ

Другі раз у гісторыі Злучаных Штатаў здарылася, што кандыдат на прэзідэнта атрымаў больш 60% галасоў. Прадстаўнік дэмакратычнай партыі Ліндан Джонсан перамог прадстаўніка рэспубліканскай партыі велізарнай (нават ва ўмовах Амерыкі) лічбай — 15 млн. галасоў. Для параўнання варта ўспомніць, што папярэднік Джонсана, Д. Кенедзі перамог Ніксана чатыры гады назад толькі 0,2% галасоў.

Адзін з публіцыстаў назаўтра пасля выбараў пісаў, што дэмакраты перамаглі не толькі дзякуючы сваёй мудрасці, але і дурноце рэспубліканскіх праціўнікаў. З такой думкай можна згадзіцца. Апошнія выбары характарызаваліся тым, што грамадства Злучаных Штатаў атрымала да выбару дзве вельмі розныя палітычныя праграмы, менш, чым звычайна, разводненыя нічога не азначаючымі словамі. Прадвыбарчыя і пазнейшыя выказванні Джонсана можна звесці да наступнага: рэалістычны погляд на сучасны свет, а значыць, адмова ад авантурніцтва як спосабу вырашэння спрэчных праблемаў, а ва ўнутранай палітыцы — увядзенне раўнапраўя для каляровых, паляпшэнне матэрыяльных і сацыяльных умоў жыцця шляхам змяншэння беспрацоўя і максімальнага выраўнання цэн.

Праграма рэспубліканцаў, якую прапагаваў Галдуотэр, прадстаўляе поўную процілегласць прынцыпам дэмакратаў. Галдуотэр паказаў сябе прыхільнікам вайны, які не задумаецца над прымяненнем ядзернай зброі нават у лакальных канфліктах. Усім вядома яго абяцанне перадаць права прымяніць атамныя бомбы вайсковаму кіраўніцтву. Гэта найлепш паказвае, як далёка зайшоў Галдуотэр у сваёй безадказнасці і адсутнасці разумення сучаснага міжнароднага становішча. Ва ўнутранай палітыцы Галдуотэр выступаў як абаронца вялікага капіталу, зусім не беручы пад увагу людзей працы. Таму прафсаюзы выступілі супраць яго кандыдатуры. У шчакатлівай для ЗША негрыцянскай праблеме Галдуотэр выказаўся за ануліраванне пастановы аб роўнасці правоў і ўтрыманне расавага падзелу ў грамадскім жыцці. Гэты расісцкі прынцып прынёс яму перамогу ў выбарах у пяці паўднёвых штатах, дзе найвастрэй выступаюць антынегрыцянскія тэндэнцыі.

Вынікі выбараў гавораць аб тым, што нават у краіне, якая з'яўляецца галоўным бастыёнам капіталізму і антыкамунізму, крайне рэакцыйныя погляды, якія крыюць у сабе небяспеку вайны, не могуць быць прыняты большай часткай грамадства. Апошнія выбары ў ЗША даюць нам права сказаць, што рашаючую перамогу заваявалі памяркоўнасць і разважнасць. Слушна, мабыць, верачы ў здзяйсненне выбарчай праграмы Л. Джонсана, лічым на магчымасць далейшага паляпшэння міжнароднай атмасферы і на канкрэтныя размовы на тэму раззбраення, урэгулявання нямецкага і індакітайскага пытанняў і шэрагу іншых спраў.

Пры нагодзе варта дадаць, што памяркоўнасць і разважнасць можна аднесці не толькі да амерыканскага грамадства. Гэтыя ж рысы праявіліся ў апошні час таксама і ў час выбараў у Вялікабрытаніі. Там перамагла Партыя Працы, якая высунула праграму мірнага суіснавання і актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва. Трошкі раней памяркоўнасць і разважнасць праявіла грамадства скандынаўскіх краін — Швецыі і Даніі, выбіраючы ў парламенты сацыял-дэмакратаў і адкідаючы праграмы партый, не хаваючых сваіх ваяўнічых схільнасцей.

Пры такім становішчы, калі выбары з'яўляюцца праверкай поглядаў шырокіх слаёў насельніцтва, мы можам з задавальненнем сказаць, што людзі капіталістычных краін, так, як і мы, бачым сваю будучыню ў міры і паляпшэнні жыцця. У адкрытай выбарчай барацьбе рэакцыя не мае шанцаў на перамогу.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Пазнаем свой край

# НАВУКА У СЛУЖБЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У 1945—1963 гг. вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы выпусцілі 37.066 дыпламантаў. Бягучы год павінен даць нам 1.652 абсальвентаў. Аб вялікіх коштах стацыянарнай адукацыі гэтых кадраў можа сведчыць факт, што на кожнага студэнта дзяржава выдае 150 тыс. зл. У перадваенныя гады не было той дапамогі, якую сёння дае народная ўлада моладзі — дапамогі ў выглядзе стыпендый, кватэр у інтэрнатах для студэнтаў і г.д. Перад вайною, напрыклад, студэнт штогод за навуку плаціў 220 зл., а толькі 10% навучэнцаў было звольненых ад гэтай аплаты. Карэнным чынам змяніўся сацыяльны склад моладзі. Прыгадаем тут цікавую цыфру, пачэрпнутую з рэктарскай справаздачы за 1928/29 г., змешчанай у Памятнай кнізе Галоўнай сельскагаспадарчай школы ў Варшаве. Адзначаецца там, што 36% студэнтаў — гэта сыны вялікіх землеўласнікаў, а 15% — дзеці ўласнікаў або арэндатараў меншых маёнткаў. Сёння ж больш як 60% студэнтаў вышэйшых сельскагаспадарчых школ складаюць выхадцы з вёскі і рабочага асяроддзя.

Зараз працуе ў краіне сем вышэйшых сельскагаспадарчых школ — у Варшаве, Лодзі, Познані, Вроцлаве, Любліне, Ольштыне і Шчэціне, з агульнай колькасцю 2.000 навуковых працаўнікоў і з 1620 працаўнікамі т. зв. дапаможнымі. Ужо першы год існавання новага ладу ў Польшчы прынёс дэкрэт ПКВН ад 23 кастрычніка аб заснаванні ў Любліне Універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай, дзе былі арганізаваны чатыры аддзяленні, з якіх два — гэта сельскагаспадарчае і ветэрынарнае.

Вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы не толькі выпускаюць новыя кадры, але адначасова з'яўляюцца вялікімі навукова-даследчымі ўстановамі, якія нястанна працуюць над рознымі пытаннямі. Кафедры гэтых школ апошнім часам займаліся, напрыклад, справай павышэння здароўя бульбы, дражджаваннем яе для пашы, новымі гатункамі гуркоў, гарманізацыяй памідора і шмат якімі іншымі праблемамі. На гэтыя тэмы былі апублікаваны даследчыя працы, а вынікі скарыстаны ў практыцы, што дало ўжо значныя эфекты. Важным здабыткам з'яўляецца супрацоўніцтва вышэйшых сельскагаспадарчых школ з тэрэнам. Пры школах створаны спецыяльныя цэнтры па пашырэнню тэхнічнага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы. Цэнтры займаюцца арганізацыяй у паасобных ваяводствах спецыялістычных курсаў, на якіх заняткі праводзяць навуковыя працаўнікі.

З думкай аб павышэнні кваліфікацыі навуковай кадры былі адкрыты ў 1962 годзе дактаранцкія студыі. Ёсць таксама магчымасць атрымання замежных стыпендый. Асаблівую дапамогу аказаў нам Савецкі Саюз, дзе агулам 50 малодшых навуковых працаўнікоў атрымала ступені кандыдата навук. Шмат таленавітых спецыялістаў знаходзілася на навуковым стажы ў ЗША і краінах Заходняй Еўропы.

Прыгадаем яшчэ некалькі лікаў, каб можна было ўявіць кантраст паміж нашым часам, а даваеннай Польшчай. У 1937/38 г. вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы мелі 110 кафедраў і каля 300 навуковых працаўнікоў. Вучылася тады 3.266 студэнтаў. У 1963/64 г. мы маем 353 кафедры, 2.000 навуковых працаўнікоў і 17.700 студэнтаў. Гэта супастаўленне не патрабуе каментарыяў. Не падлягае сумненню, што абсальвент мае зараз значна шырэйшую тэарэтычную падрыхтоўку. Выклікана гэта не толькі прагрэсам і развіццём навукі, але і новымі, сучаснымі метадамі адукацыі.

Штогод у службу сельскай гаспадарцы ідзе новае папаўненне. Яно надзейны залог нашых далейшых поспехаў.

**а. с.**



Вышэйшая сельскагаспадарчая школа ў Картове пад Ольштынам.




### Справаздачы інструктараў

На апошняй нарадзе, якая адбылася 2 лістапада, інструктары ГП складалі справаздачы з працы за месяц кастрычнік. Віктар Швед з Варшавы, Міхась Вішэнка (Мілейчыцы), Сяргей Крышэнь (Саколка) расказалі аб штодзённай сваёй працы, аб дасягненнях і цяжкасцях аддзела. Успомненыя інструктары, як вынікала з іх справаздач, поўнасцю спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Нельга гэтага сказаць аб інструктару Міколе Лобачу з Гайнаўкі. Дрэнна там справа выглядае з актыўнасцю дзеячоў, а таксама з дысцыплінаю членаў праўлення, якіх вельмі цяжка сабраць на пасяджэнне, і таму з недахопу належнай колькасці членаў прыходзіцца іх часта адкладваць.

### Варшаўская эстрада

Пры Варшаўскім аддзеле БГКТ арганізавалася эстрадная група. Мастацкім кіраўніком з'яўляецца грамадзянін Пухальскі. Ужо адбылося некалькі рэпетыцый. Віктар Швед узяўся напісаць канферансье. Калі падрыхтуецца рэпертуар, эстрадная група будзе выязджаць з канцэртамі.

Гэта ёсць у плане. А як будзе ў рэчаіснасці перакапаемся самі.

У Варшаўскім аддзеле вялікім поспехам карыстаюцца даклады, пасля якіх заўсёды адбываюцца цікавыя дыскусіі. У лістападзе выступіць з дакладам Ю. Туронак «25 гадавіна ўз'яднання беларускага народа» і П. Ластаўка «Беларускае таварыства ў Польшчы ў міжваенным перыядзе».

### Планы рэалізуюцца

Сакольскі аддзел БГКТ клапоціцца аб тым, каб багаты план IV квартала быў выкананы ў 100 працэнтах. Актыў аддзела 1 лістапада выязджаў у паасобныя вёскі на абслугоўванне гурткоў БГКТ. У гуртках у Талькоўшчыне, Гаркавічах, Кнышэвічах, Новым Востраве, Крынках, Казловым Лузе і Слоі адбыліся сходы, на якіх былі накрэслены планы працы на асенне-зімовы перыяд.

У Новай Волі члены гуртка пастанавілі арганізаваць мастацкі калектыў, а ў Сухінічах арганізаваць курс беларускай мовы. У гэтай вёсцы аматарскі драмгурток рыхтуе дзве п'есы «Залёты» і «Пшыяцеле».

### Экскурсіі

Нядаўна актыў аддзелаў БГКТ выязджаў аўтобусам Галоўнага праўлення на экскурсію ў Варшаву. У першай экскурсіі бралі ўдзел актывісты Гайнаўскага, Бельскага і Сямяціцкага аддзелаў, а ў другой экскурсіі — актыў Саколкі і Беластоцкага аддзела ў Міхалове. (мх)

# НАРОДНАЯ АДУКАЦЫЯ У БЕЛАРУСІ

У мінулым Беларусь была адной з адсталых краін Расіі. Царскае самадзяржаўе імкнулася трымаць беларускі народ у цемнаце і нявуцтве, не дапускала яго да развіцця сваёй нацыянальнай культуры. Царызм не дазваляў беларусам вучыцца на сваёй роднай мове і нават адкідаў сам факт існавання беларускай мовы.

Школьная сістэма ў дарэвалюцыйнай Беларусі была пабудавана па прынцыпу саслоўнасці і насіла ярка выражаны класавы характар. Каля 80% жыхароў Беларусі было зусім непісьменнымі.

З першых жа дзён устанаўлення Савецкай улады ў Беларусі была праведзена карэнная рэарганізацыя ўсёй справы народнай адукацыі. Навучанне стала даступным шырокім масам працоўных. У гарадах і вёсках рэспублікі былі створаны школы ліквідацыі непісьменнасці — лікбезы (ліквідацыя непісьменнасці), усялякія курсы, народныя універсітэты і гэтак далей. Акрамя лікбезаў і школ граматы, выкарыстоўваліся і такія формы навучання, як гурткі і індывідуальны метад.

У далейшым для павышэння агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню працоўных паўсюдна былі створаны вечаровыя школы павышанага тыпу для дарослых. Напярэдадні другой сусветнай вайны ў школах для дарослых навучалася 44900 юнакоў і дзяўчат, якія без адрыву ад вытворчасці атрымоўвалі тут сямігадовую і сярэднюю адукацыю. Калі ўлічыць да таго працу ўсялякіх курсаў, то атрымалася, што абсалютная большасць насельніцтва рэспублікі было ахоплена гэтай або іншай формай вучобы. У 1940/41 навучальным годзе ў Беларусі працавала 11844 школы, у якіх вучылася 1.691.529 навучэнцаў.

Вайна прынесла незлічоныя ахвяры і пакуты ўсяму савецкаму народу, у гэтым ліку і беларускаму. Не абыйшла яна і народную адукацыю. На тэрыторыі Беларусі гітлераўскія варвары поўнасцю знішчылі 6808 школ з усім іх абсталяваннем. Усе астатнія школы, спецыяльныя сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы таксама былі разбураны. На працягу трох год фашысцкай акупацыі ў Беларусі не працавала ніводная навучальная ўстанова. Толькі ў некаторых партызанскіх атрадах былі створаны «лясныя школы», дзе настаўнікі — партызаны ў вольны ад баёй час навучалі граматы дзяцей, хаваўшыхся ў лясах ад фашысцкіх катаў.

У першыя пасляваенныя гады была поўнасцю адноўлена ўся даваенная сетка школ. Разгорнутае бурнае будаўніцтва школ хутка дазволіла ажыццявіць усеагульнае сямігадовае навучанне. Шырокае развіццё атрымала сярэдняя адукацыя. Зараз у Беларусі налічваецца звыш 12 тысяч школ, у якіх вучыцца 1.700 тысяч дзяцей. У рэспубліцы працуе 26 вышэйшых навучальных установаў, дзе займаецца звыш 86 тысяч студэнтаў — у чатыры разы больш чым у 1940 годзе. Колькасць навучэнцаў у тэхнікумах і іншых сярэдніх спецыяльных навучальных установах у 1963 годзе павялічылася ў параўнанні з даваенным перыядам у 2,7 разы. Зараз у народнай гаспадарцы рэспублікі занята больш як 350 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй — гэта больш чым іх было ва ўсёй царскай Расіі ў 1913 годзе.

Пераход да развернутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне патрабуе высокаадукаваных людзей, здольных выконваць найбольш складаныя пытанні гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, добра арыентавацца ва ўсіх галінах навукі і тэхнікі. Важнейшая роля ў падрыхтоўцы такіх кадраў належыць школе. Вось чаму савецкі ўрад пастаянна ўдасканальвае сістэму народнай адукацыі, стараючыся наблізіць навучанне да вытворчай працы, да практыкі камуністычнага будаўніцтва. Менавіта на гэта накіраваны Закон «Аб сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці народнай адукацыі ў СССР.»

У жніўні 1964 года Цэнтральны камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб скарачэнні часу навучання ў сярэдняй школе. Пасля гэтай пастановы ад 1 верасня бягучага года адзінаццацігадовыя школы з вытворчым навучаннем рэарганізуюцца ў дзесяцігадовыя.

Перавод сярэдніх школ на новы тэрмін навучання будзе закончаны на працягу двух год. Але гэта зусім не абазначае павароту да папярэдняй дзесяцігодкі. Сярэдняя школа і надалей будзе развівацца як працоўная палітэхнічная з вытворчым навучаннем.

Разам са звычайнымі школамі ў Беларусі ўсё большае развіццё атрымліваюць школы-інтэрнаты. У адрозненні ад звычайных школ у школах-інтэр-




**У школе на сценах ёсць і партрэты беларускіх пісьменнікаў. Варта і іншым школам узяць прыклад з Мора.**



**Пасяджэнне педагагічнага савета.**

**Тэкст і фота М. Хмялеўскага**

# Мала грошай не згнаіў

Хачу сказаць некалькі слоў аб людзях, якія ашчаджаюць свой грош, каб, сабраўшы большую суму, купіць мэблю, матацыкл, адзенне, тэлевізар, воз балон і г.д. Іншыя складаюць на кніжку, каб падрыхтаваць крыху грошай, як кажуць, на «чорную гадзіну». І так, многія і на вёсцы ідуць на пошту і складаюць грошы на кніжку СКО. І тады кожны не толькі спакойны, што грошай ніхто не ўкрадзе, што не знішчаць іх мышы, ды яшчэ нарастаюць працэнты, дабавачныя даходы.

Аднак знаходзяцца ў нас і такія людзі, якім вялікія сумы грошай з'ядаюць каровы. Аб гэтым пісала «Грамада Рольнік Польскі» ад 29 кастрычніка. У нас таксама ў Новым Ляўкове Грыша Болбат амаль што поўнасцю не згнаіў 8 тысяч злотых. Яны ў яго доўга праляжалі ў сырым месцы і знішчыліся. Цяжка ад-

(Працяг на стар. 7)

# У МОРЫ

Як у многіх вёсках, так і ў Моры, найпрыгажэйшым будынкам з'яўляецца школа-помнік 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Дзякуючы дружнаму настаўніцкаму калектыву, які ўзначальваецца Язэпам Зінчуком, выхаваўчая праца тут на высокім узроўні.

У навучэнцаў школы бадзёры і вясёлы настрой. У час перапынку вельмі часта можна ўбачыць спяваючых і танцуючых дзяцей пад папулярную песеньку «Зялёны вальчык».

На сценах вялікага калідора і фае мы бачым партрэты польскіх і беларускіх пісьменнікаў. Вісіць тут і параўнаўчая табліца, якая паказвае два дваццацігоддзі Польшчы — панскай і народнай.

У бягучым годзе агромны школьны пляц абгарадзілі драцяной сеткай, пад якую палажылі таксама фундамент. Пры гэтай працы дапамаглі сельскагаспадарчыя гурткі з Мора і Крывяціч, а таксама школьнікі.

У гэтай школе вучацца дзеці з Крывяціч і Мора. Ад школы да вёскі Мора 300 метраў балоцістай дарогі. У сувязі з IV з'ездам ПАРП і 20-годдзем народнай улады насельніцтва Мора і Прэзідыум ГРН у Старым Корніне забавязаліся да 22 ліпеня пабудаваць тут брук. Сяляне звезлі 100 кубічных метраў камення, навазілі пяску і сваё абавязацельства выканалі. Не вывязалася са свайго абавязацельства ГРН. Несалідна гэта выглядае, калі зважыць тое, што на падтрымку грамадскага чыну былі прызначаны грошы ваяводскай радай. Недатрыманне слова праз ГРН у жыхароў Мора выклікае незадавальненне і можа мець такія вынікі, што ўзбудзіць іх да далейшай грамадскай працы будзе немагчыма. Таму неабходна хаця са спазненнем вывязацца са свайго абавязацельства.

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# КОЛЬКІ І ЗА КОЛЬКІ

Спачатку некалькі лічбаў. У 1949 годзе беластоцкія сяляне прадалі дзяржаве праз пункты скупу 39 тысяч тон мяса. Праз 10 год дастаўкі павялічыліся да 61 тыс. тон, а найбольшыя былі ў 1962 годзе, калі Беластоцкае ваяводства дало краіне 81 тыс. тон мяса жывой вагі.

Гэта вялікая колькасць. Гэта сотні мільёнаў злотых, якія плывуць на вёску. Іменна жывёла на мяса з'яўляецца адной з найважнейшых пазіцый у даходах нашых сялян. Прадукцыя мяса ў нас была і ёсць даволі вялікая. Але гэта зусім не азначае, што ў галіне жывёлагадоўлі і эканомікі ўсё вельмі добра. Калі эканаміст прааналізуе гэтую праблему, скажа, што так, прадукуецца шмат, але кошты прадукцыі даволі высокія. Селянін дадасць, што і з пагалоўем свіней бывае па-рознаму, а якасць свініны не заўсёды падабаецца кліентам.

У чым жа справа? Раней панавала мода на тлустае мяса. Гэта змушае гадаваць іншыя пароды свіней, інакш іх карміць. Дайшло нават да таго, што за граніцай выгадавалі свіней, якія даюць зусім худое мяса. Назвалі гэту пароду свіней бястлушчавай. Гэта не трэба разумець даслоўна. Справа не ў тым, што арганізм свінні не мае тлушчу, а ў тым, што яго вельмі мала ў мясе.

Такія ж змены можна заўважыць і на Беласточчыне. Беластачане таксама лепш любяць худое мяса. Для таго, каб забяспечыць патрэбы рынку і выканаць заданні экспарту, трэба павялічыць колькасць худога мяса. Аб гэтым падумалі значна раней. Ужо раней у нашым ваяводстве ліквідавалі пулаўскую пароду свіней, а большую ўвагу звярнулі на вялікую белую польскую і белую віславухую (пароды мясных свіней).

Сёння трэба звярнуць большую ўвагу на паляпшэнне якасці пароды свіней на нашай тэрыторыі. Асабліва важна селекцыя і падбор свіней, прызначаных на расплод.

Як і ў гадоўлі буйнай рагатай жывёлы, хвост хвасту не роўны. Неабходна адпаведна выкарыстаць генетычныя ўласцівасці жывёлы. Вядома, што добры гаспадар можа выгадаваць кормніка да 100 кг за 7 месяцаў. Іншыя не ўмеюць так выгадаваць і трымаюць яго да года.

У многіх краінах з кожнага пастаяннага статку, напр., І мільён свіней штогод прадаюць 1,5 млн. кормнікаў. У нас яшчэ з гэтым значна горш Таму мы павінны старацца паляпшаць пагалоўе свіней і выкарыстоўваць найбольш карысныя якасці. На гадоўлю пакідаем парасят ад найлепшых свінаматак і кныроў. Яны павінны быць здаровыя, з шырокімі грудзьмі, роўным хрыбтом, цвёрдымі кумпякамі і адпаведнай даўжыні. Свінаматка павінна мець не менш 12 добрых саскаў.

Важны элемент у гадоўлі свіней — адпаведны хлеў. Вялікія бетонныя хлявы не апраўдалі сябе. Найлепшымі аказаліся хлявы з дошак і саломы (нават на зіму) Трэба запэўніць жывёле шмат сонца, свежае паветра, чысціню і рух. Пры хлявах павінны быць загароды і добра нават мець кавалак выгану (так ёсць, напр., у ПГР Руская Весь у Элцкім павеце).

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# НАЧАТКІ

«Паходжу я з вёскі Вітава, Гайнаўскага павета. Нарадзіўся ў сялянскай шматдзетнай сям'і. Як кожнае сялянскае дзіця таго часу летам грабаўся ў пяску, а зімой сядзеў у хаце, прыдумваючы розныя гульні. Калі я падрос, дык найбольш часу праводзіў у невялікім сасновым лясочку, што знаходзіўся зараз жа за вясковымі клунямі. Ваверкі, розныя птушкі, ягады, грыбы былі прадметам маіх дзіцячых зацікаўленняў. Калі мне споўнілася шэсць год, бацька адправіў мяне ў царкоўна - прыхадскую школу, што знаходзілася ў нашай вёсцы. У першую зіму маіх школьных заняткаў, навука паказалася мне надта цяжкай справай. Дапамагаў мне ў тэтым пераканацца і настаўнік, які вельмі часта караў мяне, не маючы часу і сілы на іншыя сродкі заахвочвання, бо вёў адначасова чатыры класы. Але ў наступным навучальным годзе я надта зацікавіўся чытаннем кніг на рускай мове, і гэта мне вельмі дапамагло ў вучобе. Маючы дзесяць гадоў, я закончыў царкоўна - прыхадское вучылішча з надзвычай добрымі вынікамі. Але радасць мая заглохла ў нашым сямейным горы — памерла маці, два старэйшыя браты былі пакліканы ў царскую армію і высланы на фронт Першай сусветнай вайны. У жніўні таго ж 1915 года казацкія атрады прымусілі нас пакінуць сваю хату і падацца ў бежанства. З невялікім скарбам на драбінястым возе на працягу трох месяцаў валакліся мы перад лініяй фронту разам з тысячамі такіх жа бежанскіх вазоў у глыб царскай імперыі. Холад, голад і страх за жыццё не раз заглядалі ў мае дзіцячыя ўражлівыя вочы. Лёс закінуў нас у горад Бугуруслан, цяпер Куйбышаўскай вобласці. Там мне ўдалося паступіць у Настаўніцкую семінарыю. Неўзабаве па ўсіх гарадах і мястэчках Расіі пракаціліся вялікія падзеі Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі. Яны зрабілі на мяне вялікі ўплыў і пакіравалі ўсім маім будучым жыццём. Зараз жа пасля вяртання на радзіму ў 1921 годзе я ўступіў у рады падпольнай арганізацыі, якая ставіла мэтай сваёй дзейнасці вызваленне Заходняй Беларусі і далучэнне яе да БССР. Арганізацыя дзейнічала на працягу 1921—1923 гадоў. Потым была выкрыта дэфензівай, а яе ўдзельнікі арыштаваны. Частка найбольш актыўных яе членаў была расстраляна, шмат засуджана на пажыццёвае турэмнае заключэнне, іншыя ж на 2 да 12 год турмы. Я, як і шэраг іншых, трапіў пад пільны нагляд паліцыі. Але гэта толькі распаліла ў мяне прагу змагацца супраць урада Пілсудскага. Я, разам са сваімі сябрамі па думцы, патаемна пісалі лістоўкі і адозвы, распаўсюджвалі іх у людных месцах, прыклейвалі да царкоўнага плоту ўноч перад святам Лістоўкі былі прасякнуты заклікам да барацьбы супраць парадкаў, заведзеных буржуазіяй і пілсудчыкамі ў краіне. У 1926 годзе я ўступіў у рады «Грамады» і там працягваў сваю дзейнасць. Аб працы ў якасці настаўніка ў той час мне не было чаго і марыць, санацыйныя асветныя чыноўнікі і блізка не падпускалі мяне да школы. А як жа ж хацелася працаваць іменна настаўнікам!.. Але гэта збылося ўжо на працяглы час толькі ў верасні 1939 года, а потым пасля трохгадовага перапынку ў час акупацыі, у верасні 1944 года. Жыхары вызваленых вёсак і гарадоў жылі тады пастановамі Польскага Камітэта Народнага Вызвалення. Збіраліся сходы і з'езды, выбіраліся на іх прадстаўнікі народнай улады, бурліла новае жыццё. На адным з пасяджэнняў Гайнаўскай Гміннай Рады, якой я быў членам, мне даручылі арганізаваць навучанне дзяцей у сваёй і суседняй вёсках. Надта цяжкае гэта было заданне. Школьны будынак быў напалавіну знішчаны, парты спалілі немцы, не было ні падручнікаў, ні дапаможнікаў, ні паперы. З чаго пачаць і завошта ўзяцца? Але неяк справа пайшла на лад. Сабраў я жыхароў абедзвюх вёсак. Яны выбралі сярод сябе бацькоўскі школьны камітэт. І я разам з бацькоўскім камітэтам прыступіў да рамонту і падрыхтоўкі школьнага будынку да заняткаў. У той жа час трэба было мне клапаціцца пра сшыткі, падручнікі, алоўкі. Сто сшыткаў і алоўкаў атрымаў я ад каменданта афіцэрскай школы, якая затрымалася на некалькі тыдняў у нашай вёсцы. Трохі паперы здабыў у гміне, падручнікі і дапаможнікі збіраў па хатах. У выніку 4 кастрычніка 1944 года я пачаў навучальны год. У той дзень сабралася ў школе звыш 70 дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 год. Трэба было іх падзяліць на класы. Большасць з іх, нават у 12-цігадовым узросце, не ўмела ні чытаць ні пісаць!.. Але падзел неяк адбыўся. Толькі вучні старшых класаў атрымалі па сшытку і алоўку з засцярогай, як мага пільней эканоміць іх. Дзве ж групы пачатковага класа першыя тыдні пісалі і рысавалі палачкамі на зямлі на школьным панадворку. Гэтыя незвычайныя заняткі «першакоў» на панадворку працягваліся да часу засваення імі літар і цыфраў. Толькі пасля гэтага атрымалі яны па алоўку і чыстым лісце канцылярскай паперы. І вось сёння, калі я працую ў дасканала абсталяванай школе з выдатна забяспечанымі ва ўсе прылады вучнямі, мне нявольна прыпамінаюцца тыя 20-цігадовай даўнасці дні і дзеці, якія цяпер сталі ўжо інжынерамі і магістрамі, увайшлі ў жыццё не як яго нявольнікі, але ў якасці яго ўладароў, я ўпэўнен, што нават праца, засваваная і запачаткаваная на пяску, мае вялікі сэнс».

**КІРЫЛ БАРАВІК**

Арэшкава, Гайнаўскі пав.

